

Магілеўскі

# ВЫБАР

№ 6 (44)
Сакавік
2015 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# Аб чарговай прафанацыі

10 лютага 2015 г. Прэзідыум Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на сваім пасяджэнні адобрыў Нацыянальную стратэгію ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 года.

Адкрываючы пасяджанне, прэм'ер-міністр РБ А. Кабякоў падкрэсліў, што перад аўтарамі стратэгіі стаяла задача – улічыць у ёй сусветныя тэндэнцыі, якія абумоўліваюць рызыкі для ўстойлівага развіцця нашай краіны.

Дакумент быў падтрыманы Прэзідыумам. У час пасяджэння паступілі прапановы, з улікам якіх стратэгія будзе яшчэ дапрацавана і пазней зацверджана пастановай Савета Міністраў.

Праект Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 г. быў распрацаваны Навукова-даследчым эканамічным інстытутам і вынесены Міністэрствам эканомікі на грамадскае абмеркаванне яшчэ ў лістападзе 2014 г. Да ідэі напісання стратэгіі кіраўніцтва краіны схілілася пасля ўдзелу беларускай дэлегацыі ў Канферэнцыі ААН па ўстойліваму развіцці ў 2012 годзе, г.Рыа-дэ-Жанэйра.

Вызначаючы перспектывы бачання нашай краіны праз 15 год, аўтары Нацыянальнай стратэгіі выдзелілі пятнаццаць пунктаў у выпрацоўцы канкрэтных напрамкаў дзеянняў па асноўных кампанентах устойлівага развіцця.

Адзін з іх - №1, - вызначае, што Беларусь – незалежная прававая дэмакратычная дзяржава, захоўваючая сваю тэрытарыяльную цэласнасць і культурна-гістарычную спадчыну… Беларусь будучага – гэта бяспечная краіна, дзяржава законнасці і парадку, справядлівасці і салідарнасці, партнёрства і адказнасці, дзе захоўваюцца ўсе правы чалавека, надзейныя інстытуты абароны прыватнай уласнасці, прафесійна працуюць органы правапарадку, карыстаючаяся даверам грамадзян.

У пункце №4 пазначана, што асновай эканомікі з'яўляюцца канкурэнцыя і сучасныя развітыя інстытуты рынка. Значны ўклад у рост эканомікі належыць малому і сярэдняму бізнэсу, для развіцця якога забяспечаны роўны доступ да рэсурсаў, створана развітая інфраструктура, канкурэнтнае асяроддзе і сістэма гарантаванай абароны ўласнасці. Кожны грамадзянін можа паўнавартасна рэалізаваць сябе ў прадпрымальніцтве. Бізнэсу выгодна і прэстыжна інвеставаць праекты па стварэнні сучаснай вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры.

А пункт №14 нават прысвечаны мясцоваму кіраванню і самакіраванню. Там сказана, што сістэма органаў мясцовага кіравання і самакіравання матывавана ў эфектыўным упраўленні мясцовымі рэсурсамі і нясе адказнасць за комплекснае развіццё сваіх тэрыторый, гарантуе фінансавую самастойнасць рэгіёнаў.

Яшчэ шмат чаго сказана ў дадзенай стратэгіі; аб прамысловасці, аб сельскай гаспадарцы, аб ЖКГ, аб неабходнасці пераходу да Балонскай сістэмы ў галіне адукацыі…

Ды чытаючы дадзены дакумент вельмі слаба верыцца ў яго практычную рэалізацыю. Бо разнастайных канцэпцый, праграмаў, пастановаў, рашэнняў у разнастайных сферах сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, скіраваных на "павышэнне ўзроўню жыцця беларускага народа", за апошнія два дзясяцігоддзі было прынята вельмі багата. Але ж іх выкананне не прынесла для грамадзян ніякай карысці, а нярэдка – толькі шкоду. Вось і зараз…

Аб якой законнасці і парадку, дзе захоўваюцца ўсе правы чалавека можа ісці размова, калі за часам распрацоўкі і прыняцця стратэгіі ў краіне за кратамі знаходзяцца незаконна асуджаныя палітычныя зняволеныя?

Аб якой справядлівасці і салідарнасці, партнёрстве і адказнасці мы можам казаць, калі ў Беларусі да гэтай пары затрымліваюцца і атрымліваюць пакаранне людзі, усклаўшыя кветкі ў знак салідарнасці з загінуўшымі актывістамі Майдану ў Кіеве і журналістамі ў Парыжы?

Аб якім захаванні культурна-гістарычнай спадчыны ідзе гаворка ў гэтым дакуменце, калі ў гэты ж час дзясяткі актывістаў партый і грамадскіх арганізацый падвяргаюцца рэпрэсіям з боку сілавых структраў і судоваму пераследу толькі за наведванне і ўскладанне кветак да мясцінаў, звязаных з паўстаннем пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага?

Аб якой канкурэнцыі, якім развіцці малога і сярэдняга бізнэсу ў Беларусі можна казаць, калі тут жа Указам №222 ад 16 мая 2014 году гэты бізнэс руйнуецца?...

У бліжэйшы час Урадам будзе прынята чарговая па-



станова аб Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця Беларусі, і прэм’ер-міністр Кабякоў сваім подпісам зацвердзіць гэтую пастанову, як гэта рабілі ў свой час Сідорскі, Мясніковіч ды іншыя. І тут жа з “чыстым сумленнем”, калі яшчэ нават не паспеюць высахнуць чарнілы на яго подпісах, усе забудуцца аб ёй, як гэта было раней з іншымі падобнымі дакументамі.

А навошта абцяжарваць сябе памяццю аб іх? Бо тады ж неабходна рабіць намаганні па іх выкананні. А ў такім выпадку трэба будзе прымаць меры па рэфармаванні беларускага заканадаўства аб мясцовым самакіраванні, распрацоўцы стратэгій устойлівага развіцця для кожнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі краіны, як гэта патрабуе Еўрапейская Хартыя мясцовага самакіравання. А гэта зрабіць у сучасных умовах практычна немагчыма, бо чынавенства на месцах па свайму стану зараз не здольна падрыхтаваць неабходныя дакументы, адпавядаючыя міжнародным стандартам.

Дык для чаго ж распрацавана гэтая Нацыянальная стратэгія? Ды толькі для таго, каб прадэманстраваць наяўнасць дадзенага дакумента перад міжнароднай супольнасцю і скарыстаць гэты факт у плане вырашэння пытанняў дзеля атрымання крэдытаў і фінансавай падтрымкі з боку Еўрапейскіх структураў на “развіццё беларускага грамадства і дэмакратыі”.

Трэба адзначыць, што паспяхова вырашаць пытанні па атрыманні фінансавай падтрымкі з Еўропы на развіццё беларускага грамадства, на іншыя праекты нашыя чыноўнікі навучыліся даўно. Вось толькі пытанне, як гэтыя фінансы выкарыстоўваюцца, ужо шмат год застаецца для беларускага грамадства закрытым. Ну, а як развіваецца само гэта грамадства, як развіваецца дэмакратыя ў нашай краіне, можа “змястоўна адчуць” на сваіх плячах любы грамадзянін Беларусі.

***Рыгор КАСТУСЁЎ,***
***намеснік старшыні***
***Партыі БНФ.***

# ГУБЕРНАТАР

***А** пошнім часам гэта слова ўсё больш навязліва стракаціць ў беларускіх газетах, гучыць на тэлебачанні і радыё. Ці праводзіцца тут мэтанакіраваная палітыка, каб прывучыць беларусаў да думкі існавання беларускай губерні ў складзе Расійскай імперыі, ці робіцца гэта журналістамі, зацыкленымі на расійскіх падзеях, адказаць складана. Аднак, гэта слова паступова ўваходзіць ў беларускі палітычны лексікон.*


На подлинномъ Собственною ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА рукою написано:

„Утверждаю.“

5-го Іюля 1878 г. въ Царскомъ Селѣ.

Гербъ

МОГИЛЕВСКОЙ ГУБЕРНІИ.

Въ золотомъ щитѣ тройная зеленая могила, на которой три червленыхъ съ зелеными листьями, колоса. Щитъ увѣнчанъ Императорскою короною и окруженъ золотыми дубовыми листьями, соединенными Андреевскою лентою.

Безумоўна, слова “губернатар” – гучнае, фанабэрыстае і дайшло да нас са Старажытнага Рыму. Не змяніўся і ягоны змест – валадар, загадчык, прызначаны кіраваць кавалкам краю. Пасля анексіі беларускіх зямель Расійскай імперыяй, тэрыторыя Беларусі была падзелена ў асноўным на наступныя губерні: Магілёўскую, Мінскую, Віленскую, Гарадзенскую і Віцебскую, пры гэтым апошняя разлягалася ледзь не да Эстоніі. На чале губерняў стаялі прысланыя з Расіі чыноўнікі, якія разглядалі сваю пасаду як прыступку да далейшай кар’еры. Напрыклад гарадзенскі віцэ-губернатар Сталыпін па вяртанні на радзіму стаў міністрам унутраных спраў.

Непасрэдна губернатараў прызначаў цар. У сваю чаргу, прыбыўшыя на новае месца, новыя губернатары прывозілі і спадручных “для сабе” чыноўнікаў. Падпарадкоўваліся губернатары тольку сенату і пракуратуры ў далёкім Пецярбурзе. Дзясяткі губернатараў змянялі ў нас адзін аднога. Сярод іх былі розныя людзі – адны вельмі любілі расстрэльваць і вешаць мясцовых вольнадумцаў, другія садзілі паркі, але іх усіх лучыла тое, што яны былі ў Беларусі чужыя.

У мэтах стварэння на далучанай тэрыторыі надзейнай сацыяльнай апоры расійскаму самаўладству імперыя пачала шырокую раздачу зямель з сялянамі рускім памешчыкам, найперш з ліку сваіх фаварытаў і буйных чыноўнікаў. Пацягнуліся на новыя ўладанні і тыя, каго абышлі чынам, месцам, або ўзнагародай, чыя гаспадарка прыйшла ў заняпад, а па-сапраўднаму працаваць не было ні жадання, ні ўмення.

У сваіх успамінах імператарскі чыноўнік асобых паручэнняў А. Масалаў пісаў, што на Беларусі ўсе гэтыя чыноўнікі адчувалі сябе не вельмі добра, бо вымушаны былі жыць у варожым акружэнні, і ад смутку ў асноўным “пілі горкую” і “гулялі ў карты”. Губернская канцылярыя Магілёва, якой правіў Васіль Алоеўцаў, стала мекай для авантурыстаў, якія дамагаліся годных месцаў. Алоеўцаў і раздаваў іх, таму яго чыноўнікі “чтили как золотого тельца”. Пры ім пасля працы ладзіліся шумныя п’янкі. Нават праваслаўны епіскап Г.Каніскі скардзіўся губернатару М.Кахоўскаму на начныя сходы канцылярыстаў, бо тое *“соблазнительно для истинных христиан и душегубно для няверных”.*

Пасля 1917 года губернатараў не стала і пра іх забыліся. Напрыклад, імёны апошняга віленскага губернатара, нейкага Вяроўкіна, альбо віцебскага, нейкага Галахава, ужо нічога нікому не кажуць. Адзіная ў савецкай Расіі беларуская губерня з цэнтрам у Гомелі была ўтворана ў 1919 годзе, пакуль горад Гомель і частку беларускай тэрыторыі вярнулі ў 1926 годзе ў склад

БССР.

Адпаведна, называць сёння словам “губернатар” цяперашніх вертыкальшчыкаў – кіраўнікоў беларускіх абласцей, у лепшым выпадку – памылка. Губернатараў у Беларусі няма. На чале ўлады ў вобласці стаіць старшыня абласнога выканаўчага камітэта.

Больш таго, яшчэ ў 1987 годзе у Беларускім НДІ праектавання і градабудаўніцтва (БелНДПІ градабудаўніцтва) была распрацавана Генеральная схема комплекснай арганізацыі тэрыторыі Беларусі. Згодна з гэтай схемай на Беларусі планавалася рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Чатырохзвенная сістэма дзяржаўнага кіравання, якая існуе сёння (рэспубліка – вобласці – гарадскія – раённыя – сельскія саветы) павінна быць замешчана трохзвеннай (рэспубліка – 20 тэрытарыяльныя комплексы – 388 мясцовых сістэм рассялення), што адпавядае сусветнай практыцы для сярэдніх і невялікіх дзяржаў.

Галоўнай прычынай неабходнасці новай адміністрацыйнай рэформы з'яўляецца несуадноснасць падзелу і сацыяльна-эканамічнага раяніравання тэрытоpыіі, што перашкаджае фарміраванню аптымальнага арганізаванага для жыццядзейнасці насельніцтва. Адным з асноўных напрамкаў рэформы, нараду з іншымі, была скасаванне абласнога дзялення. Менавіта вобласці, як асноўныя адзінкі адміністрацыйнага падзелу не адпавядаюць наяўным сацыяльна-эканамічным сувязям тэрыторый і буйнейшых гарадоў. Горад Бабруйск, напрыклад, па ўзроўню эканамічнага патэнцыялу і развіццю сацыяльнай сферы не адстае ад абласнога цэнтра, акрамя таго, ён больш цягацее да Мінскага гаспадарчага вузла, чым да Магілёва. Горад Горкі, таксама больш цягнецца да суседняй Оршы. І такія прыклады ёсць у кожным рэгіёне Беларусі.

**У Магілёўскай вобласці зараз прыкладна 240 адзінак адміністрацыйнага падзелу рознага рангу. Пры ўмовах правядзення рэформы, іх колькасць зменшыцца да 63, у тым ліку 3 тэрытарыяльных комплекса і 60 мясцовых сістэм кіравання. Такім чынам, скарачэнне адзінак адміністрацыйнага падзелу будзе амаль ў 4 (чатыры) разы. І гэта дасць значную эканомію сродкаў, якія магчыма лепш накіраваць на іншыя дзяржаўныя патрэбы.**

Скасаванне абласцей прывяло б і да абмежавання росту абластных цэнтраў, выклікаўшы ўзбуйненне іншых гарадоў. У канчатковым плане гэта прывяло б да дэканцэнтрацыі прамысловасці, а значыць, і да ліквідацыі іх манаполіі на большы ўзровень сацыяльнай сферы.

Аднак, ці пойдзе сучасная беларуская ўлада на скасаванне колькасці адміністрацыйна-дзяржаўных адзінак і адпаведна колькасці дзяржаўных службоўцаў? Улада, якая галоўным накірункам у сваёй дзейнасці выкарыстоўвае выключна каманднаадміністрацыйны метад кіравання. На мой асабісты погляд – **НІКОЛІ!**

Уявіце сябе, што напрыклад у Магілёве скароцяць супрацоўнікаў у вялікіх васьміпавярховых будынках аблвыканкама і гарвыканкама. Менавіта тых супрацоўнікаў, на якіх абапіраеца ўлада для выканання ўласных, як вельмі неабходных, так і не вельмі абгрунтаванных рашэнняў. Карацей гаворачы, ці будзе ўлада пiліць сук на якім яна сядзіць? Вось пагэтаму, на маю асабістую думку, ўсё болей настойліва і толькі ў станоўчым сэнсе гучыць слова губернатар.

Відавочна, што даўно наспела неабходнасць новай адміністрацыйнай рэформы, якая павінна ўзяць усё лепшае, што дае мінулае і замежны вопыт. Але, “яго вялікасці” чыноўніку, напэўна лепей па-ранейшаму, як і ў Расійскай імперыі толька выконваць загады вышэйшых узроўняў, патрабуючы іх выканання з ніжэйшага ўзроўню, пры гэтым дадаткова не цурацца і тым, што *“соблазнительно для истинных христиан и душегубно для наверных”.*

***Е.Меткoвіч.***



# Адусюль пакрыху

**Першыя агуркі і памідоры з беларускіх цяпліц з'явіліся на прылаўках магазінаў. У некаторых гаспадарках аб'ёмы вырашчаных ранняй гародніны знізіліся, а ў аграфірме «Вейна» пад Магілёвам цяпліцы і зусім закансервавалі. Два гады таму «Вейна» разам з яшчэ адной аграфірмай «Кадзіна» былі перададзеныя ва ўласнасць Магілёўскаму гарвыканкаму. Гэтыя гаспадаркі яшчэ з часоў Саюза забяспечвалі прылаўкі вобласці вітамінамі як з адкрытага грунту, так і з цяпліц.**

**Энергетыкі перакрылі вентыль абагрэву цяпліц «Вейна» з-за доўгу ў 6 мільярдаў рублёў. Пакуль цяпліца ў «Вейна» лічыцца на кансервацыі. Хоць даўгоў за газ і электрычнасць у аграфірмы «Кадзіна» яшчэ больш - звыш Br20 мільярдаў - тут расада таматаў і агуркоў ўжо цвіце і пахне. Праўда, адкрыць цяплічны сезон змаглі літаральна на сумленным слове: пастаўшчыкі пайшлі на ўгаворы вылучыць насенне, мінеральную вату і ўсё астатняе ў доўг.**

**Пракурорам Магілёўскай вобласці ўзбуджаная крымінальная справа па ч.2 арт. 424 КК (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі) у дачыненні да былога дырэктара ААТ «Бабруйскі мясакамбінат», які падазраецца ў тым, што неаднаразова незаконна прыцягваў у працоўны час падпарадкаваных яму працаўнікоў для выканання будаўніча-мантажных работ на тэрыторыі свайго домаўладання.**

**Пракуратурай Магілёўскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па ч.3 арт.424 КК у дачыненні да былога начальніка аддзела збыту ААТ «Магілёўскі мясакамбінат», які падазраецца ў адгрузцы прадукцыі камбіната ў адрас прыватнага прадпрыемства пры наяўнасці пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці. Яго дзеяннямі нанесены ўрон ў суме 452 млн. рублёў.**

**Плануецца рэканструяваць па параметрах 1 катэгорыі і давесці да міжнародных стандартаў ўчасткі аўтамабільнай дарогі М-8 / Е 95 «Мяжа РФ (Езярышча) - Віцебск - Гомель - мяжа Украіны (Новая Гута)», якая праходзіць і па тэрыторыі Магілёўскай вобласці .**

# Вось такі росквіт...

***“Ничем вас не удивлю, учить никого не надо: должна быть жесточайшая дисциплина, ибо вы будете по-прежнему нести на плечах эти неради-вые коллективы, колхозы, совхозы, СПК или унитарные предприятия… Заработал — получай, не заработал — ни-кто на плечах никого нести не будет. Тем более, что у нас осталось меньшинство таких предприятий, кото-рые не могут работать и подлежат глубокому рефор-мированию, продаже. Поэто-му у нас есть все возможнос-ти для того, чтобы людям сказать: будете работать — будете получать. Не бу-дет работы, будете воро-вать, растаскивать, как прежде, хозяйства — тогда ничего и не получите. По-этому надо напрягать тех руководителей, трудовые коллективы, которые будут вам подконтрольны, и ориентировать их на нормальную работу”…***

Александр ЛУКАШЕНКО.
(Цитата по отчету БелТА со встречи Президента с вновь назначенными управленцами 27 января 2015 года)

Магілёўскія чыноўнікі з “ідэалагічнай вертыкалі” на апошнім “адзіным дні інфармавання насельніцтва” з імпэтам распавядалі ўдзячным працаўнікам вёскі ў розных рэгінах вобласці пра тое, што па выніках працы за 2014 год у сельгасарганізацыях Магілёўшчыны ў параўнанні з 2013 годам выраслі аб’ёмы вытворчасці збожжавых і зернебабовых культур больш чым на 27%, льнавалакна – на 15%, рапса – амаль на 7%, бульбы – на 8%, малака – на 0,1%, яго рэалізацыя – на 3%, вырошчванне жывёлы і птушкі (у жывой вазе) адпаведна на 3% і 5%.

Яны асабліва падкрэслівалі і тое, што рост вытворчасці прадукцыі дазволіў павялічыць у 1,3 разу атрыманне выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг, альбо ў памеры 9,8 трлн. рублёў, дасягнуць рэнтабельнасці продажаў амаль 7%, а таксама забяспечыць рост сярэднемесячнай заработнай платы ў сельскай гаспадарцы да ўзроўня 2013 года ў 1,2 разу (4243,7 тыс. рублёў).

Прачытаўшы святочны рапарт нашых слаўных чыноўнікаў ад ідэалогіі аб нечуваным росквіце сельскай гаспадаркі ў роднай Магілёўскай вобласці мяне агарнуў гонар за нашых працаўнікоў вёскі, за іх вялікія заробкі (ва ўсялякім выпадку, менавіта так лічаць нашы мудрыя ідэолагі), якія яны атрымліваюць за сваю сапраўды вельмі цяжкую і ненармаваную працу. На вочы навярнулася сляза шчасця і радасці, і перад затуманеным поглядам узнік ідылічны малюнак: абл- і райвыканкамаўскія чыноўнікі кідаюць свае абрыдлыя кабінеты і бягуць уладкоўвацца жывёлаводамі і трактарыстамі ў сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, каб атрымаць вялікія заробкі.

Прабачце мяне, паважаныя чытачы, што пішу з пэўным гумарам, аднак, шчыра кажучы, мне проста абрыдла слухаць і чытаць усю тую ахінею, якую кажуць і пішуць нашыя “мудрыя” чыноўнікі і іх верныя слугі з многіх рэгіянальных СМІ. Справа ў тым, што я сам жыву ў вёсцы, не адзін год адпрацаваў у галіне сельскай гаспадаркі, і выдатна ведаю, у якім месцы на самрэч знаходзіцца сельская гаспадарка Магілёўшчыны.

Больш за тое, выдатна ведаюць гэта і нашы чыноўнікі, і многія кіраўнікі гаспадарак, з якімі я рэгулярна кантактую, і якія ў адзін голас характэрызуюць яе сапраўдны стан у асноўным на нелітаратурнай частцы вялікай рускай мовы.

Ведае гэты сапраўдны стан сельскай гаспадаркі і кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка, што добра бачна з вынесеных у эпіграф яго словаў.

Каб не быць галаслоўным, прывяду толькі некалькі канкрэтных лічбаў і фактаў.

У аграпрамысловым комплексе Магілёўскай вобласці маецца 180 прадпрыемстваў і арганізацый, якія займаюцца вытворчасцю сельгаспрадукцыі і ажыццяўляюць агратэхнічнае абслугоўванне сельскагаспадарчых арганізацый, 18 – якія ажыццяўляюць абслугоўванне і будаўніцтва меліярацыйных аб’ектаў, а таксама 19 перапрацоўваючых сельгаспрадукцыю арганізацый і 296 сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак. Усяго ў сферы АПК занята каля 40,3 тысяч працаўнікоў, альбо каля 8,24% занятага ў эканоміцы Магілёўскай вобласці насельніцтва.

Згодна афіцыйных дадзеных, на тэрыторыі Магілёўскай вобласці маецца 15 стратных сельскагаспадарчых арганізацый, што складае 7,7% ад агульнай колькасці стратных арганізацый вобласці. Сума іх чыстых страт складае звыш 187 мільярдаў рублёў.

Здаецца, не так ужо і шмат, але, як кажуць, д’ябал хаваецца ў дэталях. Калі адкінуць шматмільярдную бязвыплатную дзяржаўную падтрымку сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацый Магілёўскай вобласці з дзяржаўнага бюджэту, то стратнымі будуць ужо больш за 60% такіх прадпрыемстваў. І ўсе гэтыя прадпрыемствы без дзяржаўных датацый проста не змогуць існаваць, бо яны ўжо даўно з’яўляюцца фактычнымі банкрутамі. Пра што казаць, калі зараз у большасці гаспадарак Магілёўскай вобласці адсутнічаюць абаротныя сродкі на вядзенне бягучай гаспадарчай дзейнасці і выплату заробкаў! Шмат дзе няма грошай нават на паліва для таго, каб заправіць сельскагаспадарчую тэхніку, не кажучы ўжо аб сродках на набыццё запчастак для яе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Між тым, толькі для правядзення гэтай самай веснавой сяўбы, згодна падлікаў аблсельгасхарчу, Магілёўскай вобласці патрабуецца каля двух трыльёнаў рублёў. І пакуль што ніхто не ведае, адкуль гэтыя грошы



— Рассказывал вам бригадир об эфирсульфонате и метилмеркаптофосе?
— Где уж ему! Он и «мама» выговорить не может!

новічам, які некалі сказаў, што *“нават чыста візуальна можна вызначыць, што належачыя многім асобам раскошныя асабнякі, дарагія транспартныя сродкі, немагчыма мець за тое грашовае забеспячэнне, якое яны атрымліваюць”.*

Напрыканцы крыху хацелася б спыніцца на “высокіх” сярэдніх заробках працаўнікоў вёскі Магілёўскай вобласці ў памеры 4 247,3 тыс. рублёў у месяц у мінулым 2014 годзе, у тым ліку ў снежні – 4 295 тыс. рублёў. Як кажуць, усё пазнаецца ў параўнанні, таму прывяду вам такі прыклад: намінальная налічаная сярэдняя зарплата ў Магілёўскай вобласці ў 2014 годзе склала 5 352,7 тыс. рублёў, у тым ліку ў снежні – 5 843,4 тыс. рублёў. Ну а тыя ж “гаротныя” чыноўнікі насамрэч зарабляюць зусім нядрэнна - сярэдні заробак у сферы дзяржаўнага кіраўніцтва ў нашай краіне ў снежні 2014 года склаў 8 539,7 тысячы рублёў.

ўзяць. Плануецца, што 10% ад гэтай сумы знойдуць самі сельгаспрадпрыемствы (цікава, дзе?), ну а асноўную частку, як звычайна, выдзеліць дзяржава з бюджэту ў выглядзе крэдытаў і г. д.

Аднак колькі ж можна даваць? Самі праўладныя эканамісты падлічылі, што за апошнія дзесяць гадоў у сельскую гаспадарку было ўкладзена каля 40 мільярдаў долараў ЗША. На вялікі жаль, гэтыя шалёныя па беларускіх мерках грашовыя ўкладанні ў сельскагаспадарчую галіну не далі практычна ніякага значнага эфекту. Запазычанасць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў значна перавышае іх гадавую выручку ад рэалізацыі ўсёй выпрацаванай прадукцыі. І нават апошняму дурню зразумела, што яна ніколі не будзе пагашана.

І хоць мы добра ведаем аб тым, што зараз у беларускай дзяржавы няма сродкаў, каб падтрымліваць стратную сельскую гаспадарку, аднак не маю сумневу, што, безумоўна, на пасяўную яны будуць знойдзены – за кошт запуску друкарскага станка і чарговага вітка інфляцыі, якую мы, шаноўныя чытачы, аплоцім з уласнай кішэні.

Хацелася б толькі, каб выдзеленыя сродкі не былі раскрадзеныя, як гэта часцяком адбываецца ў нашых гаспадарках. Самі ведаеце, колькі таго ж паліва рэалізуецца падчас веснавой сяўбы направа і налева простымі механізатарамі. Ну а таварышы пры ўладзе “зарабляюць” нашмат больш, – нездарма сельскагаспадарчая галіна лічыцца адной з найбольш карумпаваных у Магілёўскай вобласці. Наогул, тут нельга не пагадзіцца з намеснікам пракурора Магілёўскай вобласці Сяргеем Сільва-

Магчыма, менавіта з-за гэтага яны так любяць распавядаць прыгожыя казкі пра шчаслівае і заможнае жыццё працаўнікоў вёскі на Магілёўшчыне, аднак ні іх саміх, ні іх дзетак працаваць у сельскую гаспадарку колам не загоніш…

Наш зямляк, двойчы Герой сацыялістычнай працы Васілій Канстанцінавіч Старавойтаў калісьці сказаў, што *“няма ў свеце такой сілы, якая б прымусіла калгасніка добра працаваць у калгасе”.* Пакуль гэтага не зразумеюць нашы чыноўнікі ад улады, усе “рэформы” якія накіраваныя на захаванне той жа калгаснай сістэмы пад іншымі прыгожымі шыльдамі, ніякага “росквіту” сельскай гаспадаркі на Магілеўшчыне і ва ўсёй нашай краіне чакаць не даводзіцца.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

# С целью оптимизации

В стране кризис. А. Лукашенко требует от всех считать каждую копейку. Но для кого-то в год нелёгких для АГ президентских выборов денег не жалко. 27 марта 2014 года Президиум Совета Федерации профсоюзов Беларуси (ФПБ) своим постановлением №70 «Об оптимизации структуры ФПБ» в целях дальнейшего повышения социального партнёрства, работы профсоюзов на местах, проведения согласованных действий профсоюзных организаций при решении важнейших социально-экономических задач на территориальном уровне, решил создать в районах, городах (регионах) республики районные, городские (региональные) объединения организаций профсоюзов, входящих в ФПБ, и наделить их правом юридического лица. Утвердено для их работы и соответствующее положение. Областным объединениям ФПБ до 1.01.2015 г. было поручено провести их регистрацию, оснастить их материально-техническую базу, в том числе и оргтехникой. Финансирование расходов на содержание и работу районных объединений осуществлять на основании ежемесячного отчисления суммы в размере 1% от собранных членских взносов и ежемесячных отчислений ФПБ в размерах, предусмотренных сметами и решениями руководящих органов ФПБ. На уровне



района формируется Совет объединения профсоюзов на срок 5 лет. Заседания Совета проходят по мере необходимости, но не реже 1 раза в 6 месяцев. Он полномочен при присутствии более 50% членов. Решение принимается большинством членов, присутствующих на заседании. Возглавляет Совет объединения профсоюзов председатель, который одновременно является членом президиума Совета. В президиуме от 7 до 13 членов. Президиум Совета заседает не реже 1 раза в 2 месяца. Полномочен работать при наличии более 50% членов. Решение принимается большинством присутствующих членов.

Председатель объединения профсоюзов назначается и освобождается от должности Исполкомом Совета ФПБ с последующим информированием Совета ФПБ. Фактически выстроена своеобразная «вертикаль» профсоюзной власти, заточенная под одного человека, который выведен из подчинения рядовых членов профсоюза на местах.

В Положении «О районных, городских (региональных) объединениях организаций профсоюзов, входящих с ФПБ» есть интересная запись, согласно которой «имущество и денежные средства объединения профсоюзов независимо от их источника являются собственностью ФПБ». Можно только догадываться, откуда у ФПБ могут появиться «имущество и денежные средства» в год, когда стране надо гасить 4 млрд. долларов внешнего государственного долга.

*Николай ПРОХОРОВ.*

## Адусюль пакрыху

**У Крычаве пабудуюць новую школу ў мікрараёне Камсамольскі на 1020 навучэнцаў замест рамонту старой, у якой у канцы жніўня 2014 г. адбылося абвальванне прыбудовы. Пасля дэталёвага вывучэння праекта аднаўлення будынка прыйшлі да высновы аб тым, што больш эфектыўна пабудаваць новае з улікам сучасных патрабаванняў. У выніку сталы будынак гімназіі будзе цалкам знесены. Да будаўніцтва новага плануюць прыступіць ўжо ў бягучым годзе. У цяперашні час ідзе распрацоўка ПСД дадзенага праекта. На яго рэалізацыю спатрэбіцца каля 25 млрд. руб.: 10 млрд. паступіць з рэспубліканскага бюджэту, 15 млрд. - з раённага. Плануюць завяршыць будаўніцтва новай школы ў 2016 годзе.**



**Нагадаем, двухпавярховая прыбудова гімназіі ў Крычаве павалілася 29 жніўня 2014 года. Пацярпелых не было. Будынак быў пабудаваны ў 1979 годзе.**

**У міністэрстве гандлю Беларусі склалі рэйтынг развіцця гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва ў рэгіёнах краіны за студзень бягучага года ў параўнанні з 2014-м. Пры падліку рэйтынгавай ацэнкі ўлічваліся асноўныя крытэрыі: рознічны і аптовы тавараабарот, доля тавараў айчыннай вытворчасці ў рознічным тавараабароце, суадносіны росту зарплаты і росту прадукцыйнасці працы, прыцягненне прамых замежных інвестыцый, паказчыкі, якія характарызуюць фінансавы стан і іншыя фактары. Акрамя таго, у бягучым годзе ўлічваліся рост коштаў і стан разлікаў гандлёвых арганізацый з пастаўшчыкамі тавараў.**

**Першае месца ў рэйтынгу заняў горад Мінск, падняўшыся на тры пазіцыі ў параўнанні з 2014 годам, на другім месцы Віцебская вобласць (4 месца ў мінулым годзе), на трэцім Гомельская (было 6 месца). Магілёўская вобласць, як і ў мінулым годзе, займае ў рэйтынгу апошняе 7 месца.**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# Дажыць да "Дажынак"

Круглянскі райвыканкам патрабуе ад мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый, каб яны пералічылі грошы, заробленыя іх працаўнікамі ў "дзень безаплатнай платы" 25 лютага, на разліковы рахунак райвыканкама. Адпаведнае распараджэнне з пазначэннем грашовых сум атрымалі дзяржаўныя і прыватныя прадпрыемствы Круглянскага раёна.

Па словах грамадскай актывісткі з Круглага Зінаіды Мілешчанка, працоўныя людзі абураныя паборамі з боку мясцовай улады, аднак уголас свой пратэст выказваць баяцца. Актывістка паведаміла, што яна, з дапамогай прафсаюза РЭП, збіраецца накіраваць запыт у дзяржаўныя органы запыт наконт законнасці правядзення ў Круглым "Дня безаплатнай працы".

25 лютага ў Круглянскім раёне быў праведзены "Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах" – згодна рашэння Круглянскага райвыканкама ў мэтах прыцягнення грашовых сродкаў для выканання работ па добраўпарадкаванні г. п. Круглае і ў сувязі з правядзеннем абласнога фестываля-кірмаша працаўнікоў вёскі "Дажынкі – 2015", "па прапанове працоўных калектываў" (!).

Круглянскі райвыканкам рэкамендаваў арганізацыям, прадпрыемствам і ўстановам да 10 сакавіка 2015 года пералічыць грашовыя сродкі, заробленыя ў Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах, *"у дабраахвотным парадку на пазабюджэтны рахунак Круглянскага раённага выканаўчага камітэта, у межах сум, згодна дадатку".*

Згодна рашэння Магілёўскага аблвыканкама, абласныя "Дажынкі" у 2015 годзе пройдуць восенню ў гарадскім пасёлку Круглае. У межах падрыхтоўкі да "фестывалю" ў раёне ўжо пачаліся працы па навядзенні парадку на зямлі – высякаецца кустоўе і хмызняк паабапал дарог, разбураюцца закінутыя хаты ў вёсках, выразаюцца дрэвы ў гарадскім парку. Грошы на правядзенне "фестывалю" ў мясцовым бюджэце не хапае, таму круглянскія чыноўнікі ў чарговы раз пастанавілі вырашыць свае праблемы за кошт простых працаўнікоў раёна.




Мясцовыя жыхары вельмі адмоўна ставяцца да ініцыятывы ўладаў аб правядзенні "дней безаплатнай працы", аднак нейкім чынам выказваць сваё незадавальненне не рызыкуюць, бо баяцца згубіць з-за гэтага працу. Між тым, знайсці нейкае новае працоўнае месца ў Круглянскім раёне вельмі цяжка - па афіцыйных дадзеных, "эканамічна неактыўнае насельніцтва з ліку людзей працаздольнага ўзросту" па стане на восень 2014 г. складае каля 1859 чалавек. Працоўныя вымушаны цярпець такія ініцыятывы" з боку мясцовых чыноўнікаў і выконваць за кошт сумлення заробленых уласных грошай іх загады.

У Круглянскім раёне за апошнія гады перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізавана шэраг калгасаў і саўгасаў. Фактычна адзінае прадпрыемства ў райцэнтры, якое стабільна пра-цуе - гэта мясцовае будаўнічае ПМК -266. Аднак і там працаўнікі скардзяцца, што апошнім часам значна знізіліся заробкі.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

### У ПРАЦЯГ ТЭМЫ

**Конечно, можно было бы сказать, что районное руководство собирает с «мира по нитке» и в этом нет большого криминала, но всякое, даже маленькое, нарушение законности от представителей власти влечёт за собой разрушение, как таковое. Как мыльный пузырь накапливается раздражение тем, что не соблюдаются даже элементарные правила игры. В организациях не проведено ни одного собрания, даже формально нет оснований взыскивать с работников денежные средства. А уж куда будут потрачены собранные в виде дани с рабочего люда деньги – «это тайна велика есть».**

**Надо признать, что выбор г. п. Круглое местом проведения «Дожинок» не вызвал особого восторга у местных аборигенов, потому что на «этом празднике жизни» круглянцы не надеются сильно повеселиться. У большинства народа нет для этого денег, так как большинство населения, особенно в сельской местности имеют «зарплату» менее 2 млн. рублей. Особенно не разгуляешься.**

**При убогости нашего существования особенно бросается в глаза разгул объёма работ, который затеяли местные чиновники. Ремонт стадиона, библиотеки, РДК просто поражает. Выпиливание парка самыми варварскими методами не поддаётся описанию. И всё это при «страшных тротуарах», на которых можно сломать ногу. Запущенности улиц, которые располагаются вдали от главных. Но вряд ли на эти нужды потратятся собранные с народа деньги, хотя в решении и указано, что на благоустройство посёлка.**

**От себя лично хочется посоветовать районным чиновникам: Господа! Если вам так хочется блеснуть перед руководством области в проведении «Дожинок», пожертвуйте хотя бы по одной зарплате на это благое дело!**

*Зінаіда МІЛЕШЧАНКА.*

# Пракурор праінфармаваў...

Пракурор Магілёўскай вобласці Аляксандр Чадзюк даў вялікае інтэрв'ю газеце “Магілёўскія ведамасці” (№11 ад 10 лютага 2015 г.), у якім распавёў пра стан і шляхі аздараўлення крымінагеннага становішча ў вобласці. У прыватнасці, А.Чадзюк адзначыў тое, што на працягу апошніх гадоў колькасць зарэгістраваных злачынстваў у Магілёўскай вобласці няўхільна зніжаецца. Так, у мінулым 2014 годзе колькасць зарэгістраваных злачынстваў на Магілёўшчыне ў параўнанні з 2013 г. скарацілася на 2,3%. Раней асуджанымі асобамі здзейснена на 1,7% злачынстваў менш, чым за 2013 г. Удзельная вага рэцыдыўнай злачыннасці знізілася і склала 43,0% супраць 44,3% у 2013 годзе. На 10,2% скарацілася колькасць злачынстваў, здзейсненых у стане алкагольнага ап’янення.

Разам з тым, пракурор Магілёўскай вобласці адзначыў, што на стан законнасці і правапарадку негатыўным чынам сказваецца недаўкамплектаванасць службы ўчастковых інспектароў міліцыі. Так, пры штатным раскладзе ў 429 адзінак па стане на 1 студзеня 2015 года ў Магілёўскай вобласці неслі службу толькі 378 участковых, з якіх толькі 26,5% пражывала на замацаваных адміністрацыйных участках.

Аляксандр Чадзюк агучыў інфармацыю, што, нягледзячы на пасіленне працы з боку пракуратуры і іншых суб’ектаў прафілактыкі па працаўладкаванню непрацуючых і вядучых асацыяльны лад жыцця асобаў, вынікі гэтай працы не радуюць. Згодна пракурора вобласці, ўсяго па выніках пасяджэнняў саветаў грамадскіх пунктаў аховы правапарадку з прыцягненнем кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, міліцыі, суб’ектаў гаспадарання было прынятае рашэнне аб аказанні садзейнічання ў працаўладкаванні 2 709 асобаў. Аднак рэальна працаўладкавана толькі 34,1%... Цікава, як улады Магілёўскай вобласці збіраюцца ўладкоўваць на працу так званых “дармаедаў”, калі не могуць забяспечыць працай нават сацыяльна неабароненых асобаў, квоты на працаўладкаванне якіх у загадным парадку даводзяцца шэрагу прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці?

Таксама А.Чадзюк распавёў пра тое, што ў мінулым годзе на тэрыторыі Магілёўскай вобласці зарэгістравана 802 эканамічныя злачынствы. З іх 219 – карупцыйнай накіраванасці: 77 крадзяжоў шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, 28 выпадкаў злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі, 14 - перавышэння ўлады альбо службовых паўнамоцтваў, 65 фактаў атрымання і 35 дачы хабару. Удзельная вага карупцыйных злачынстваў у структуры злачыннасці склала 2,1%.

Згодна пракурора вобласці, па асноўным відам эканамічнай дзейнасці найбольшая колькасць злачынстваў выяўлена ў прамысловасці, адукацыі, ахове здароўя, сельскай гаспадарцы і будаўніцтве.

Між тым, кандыдат эканамічных навук з Шклоўскага раёна Пётр Мігурскі кажа, што, нягледзячы на тое, што прынята казаць пра вялікую карупцыю ў сферы адукацыі, аховы здароўя, фактычна каля 35% карупцыйных злачынстваў здзяйсняюцца “пры дапамозе” мясцовых уладаў. Ён адзначае, што ўлады на месцах не надаюць якой-небудзь рэальнай увагі барацьбе з карупцыяй, а мясцовыя праўладныя СМІ у раёнах Магілёўскай вобласці наогул абыходзяць гэтую тэму маўчаннем.

Нагадаем, што ў мінулым годзе за здзяйсненне злачынстваў карупцыйнай накіраванасці ў Магілёўскай вобласці былі прыцягнуты да адказнасці цэлы шэраг чыноўнікаў. У прыватнасці, да 14 гадоў пазбаўлення волі за карупцыйнае злачынства асуджаны былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама Дзмітрый Мінянкоў, узбуджаныя крымінальныя справы супраць намеснікаў старшынь Бялыніцкага, Магілёўскага і Шклоўскага райвыканкамаў, супрацоўнікаў Бабруйскага гарвыканкама, дэпутата Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу ад Магілёўшчыны, генеральнага дырэктара “Крычаўцэменташыфер” і шэрагу іншых чыноўнікаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

**Прысудам суда Ленінскага раёна Магілёва асуджаны былы лекар траўматолаг-артапед гарадскога траўматалагічнага пункта Магілёўскай цэнтральнай паліклінікі і былы медрэгістратар траўматалагічнага пункта. Гэтыя асобы з чэрвеня 2013 па люты 2014 г. прымалі ў якасці хабару грашовыя сродкі, якія перадаваліся пацыентамі за афармленне і выдачу лісткоў непрацаздольнасці без наяўнасці на тое падстаў. У амбулаторныя карты несапраўдных хворых уносіліся загадзя ілжывыя запісы аб наяўнасці ў іх траўмаў і часовай страце працаздольнасці. На падставе гэтых запісаў афармляліся і выдаваліся загадзя ілжывыя лісткі непрацаздольнасці.**

**Прысудам суда былыя лекар і медрэгістратар прызнаныя вінаватымі ў учыненых злачынствах. Ім прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Па Закону «Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў», суд вызваліў кожнага з асуджаных ад пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 1 год.**

*Магілёўскі* **ВЫБАР**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 12.03.2015 г. у 10.00.